Святлана Гілеўская чэмпіёнка Беларусі па рускіх шашках
4 стар.

Наш Магістр едзе ў Іспанію
4 стар.

Мюнхгаўзен пахаваны ў Глыбокім
Толькі версія
5 стар.

ПЛЮС TV

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, ПАСТАВЫ, МЁРЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | № 14(105) 4 -- 10 красавіка 2002 года | Кошт па дамове

## Інфляцыя

### дасягнула паловы запланаванага гадавога паказчыка

За першыя тры тыдні сакавіка рост спажывецкіх цэн у Беларусі склаў 1,9 працэнта. Такіе дадзеныя прадставіла Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь. Нягледзячы на тэндэнцыю зніжэння ў сакавіку дынаміка спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў параўнанні з папярэднімі месяцамі 2002 года расце ( у студзені цэны выраслі на 6,3, у лютым на 3,6 працэнта), агульная інфляцыя з пачатку года склала 11,8 працэнта. Гэта ўжо дасягнула паловы гадавога прагназуемага паказчыка інфляцыі.

Як паведамляе ІА "Росбалт", па запланаваных параметрах грашова-крэдытнай палітыкі Нацыянальнага Банка Беларусі на 2002 год, інфляцыя за 12 месяцаў павінна скласці не больш 20-27 працэнтаў.

Як сведчыць статыстыка, сёлета ў Беларусі растуць цэны на харчовыя тавары. Напрыклад, у лютым у параўнанні са студзенем рост цэн склаў: на масла жывёльнае – 5,6, рыбу свежую - 5,4, сыры цвёрдыя – 3,2, масла расліннае –2,8, гарэлку - 2,5, яйкі – 1,7 працэнтаў. Рэкордныя ж цэны па дынаміцы росту назіраліся ў лютым на гароднінных рынках Беларусі. У прыватнасці, морква падаражала на 25,4 капуста – на 17,8, буракі – на 12,4 працэнтаў. І, што асабліва паказальна, на галоўны прадукт харчавання беларусаў – бульбу-- толькі ў лютым цана вырасла на 10,7 працэнта.

«RR»

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

Адразу на 50% павышаныя тарыфы на праезд у электрычках. Цяпер праезд у адной зоне будзе каштаваць не 80, а 120 рублёў. Да прыкладу, праезд з Мінска да Баранавіч падаражэў з 1200 да 1800 рублёў. Між тым, урад Беларусі па-ранейшаму разлічвае, што інфляцыя сёлета ўтрымаецца ў межах 20-27%.

«Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын» запрашае на семінар-трэнінг «Папярэджанне гандлявання беларускімі жанчынамі». Семінар будзе праведзены ў межах праграмы «Ла Страда Беларусь 2002-2004» і мае на мэце падрыхтоўку трэнераў, якія змогуць весці прафілактычную працу ў моладзёжным асяродку дзеля папярэджання гандлю жанчынамі. Жадаючыя прыняць удзел у семінары могуць атрымаць анкету па адрасе bywca@open.by

Падаткавікі выступаюць супраць "заробку ў канвертах" на прыватных прадпрыемствах. З гэтай мэтаю супрацоўнікаў тых суб'ектаў гаспадарання, якія на працягу года нібыта не выплачвалі заробак, будуць выклікаць у мясцовыя падатковыя органы для запаўнення дэкларацый аб даходах і маёмасці. У выпадку, калі даходы будуць меншымі за выдаткі, на прадпрыемствах такіх працаўнікоў будуць праведзены дадатковыя праверкі.



Фота IREX /ProMedia

## Беларусь атрымае менш расійскай нафты

Расія ў другім квартале 2002 года намерана знізіць аб'ём паставак нафтавай сыравіны ў Рэспубліку Беларусь. Пра гэта паведаміў прадстаўнік Мінэнерга РФ. Мяркуецца, што ў першым квартале бягучага года ўзровень паставак расійскай нафты ў рэспубліку складзе 3,7 мільёна тон нафты ( пры запланаваных 3,5 мільёна тон), у другім квартале чакаецца, што ён панізіцца да 3,4 мільёна тон. Асноўнымі пастаўшчыкамі вуглевадароднай сыравіны ў Беларусь з'яўляюцца нафтавыя кампаніі «Сургутнафтагаз», Лукойл, Юкас, «Слаўнафта» і «Сібнафта».

«RR»

## Тытунёвая вайна працягваецца

Вайна, якую аб'явілі праваахоўныя органы Полаччыны бабулям, што займаюцца нелегальным продажам цыгарэт, аказалася прайгранай: бабулек-прадаўцоў на вуліцах Полацка і Наваполацка практычна не паменела. Тады праваахоўныя органы рашылі шчыльней закрыць шляхі паступлення ў рэгіён нелегальнага тавара і ў гэтым дабіліся значных поспехаў. У іх "нераты" пастаянна трапляюць кур'еры з кантрабандным таварам. Апошні выпадак адбыўся на дарозе Полацк – Расоны. Каля вёскі Булаўкі быў спынены аўтамабіль "Фольксваген-Пасат", за рулём якога знаходзіўся 28-гадовы палачанін. Супрацоўнікі МУС і ДАІ выявілі ў машыне чатыры тысячы пачкаў імпартных цыгарэт, нелегальна ўвезеных у Беларусь з суседняй дзяржавы. Тавар, ацэнены ў два мільёны рублёў, канфіскаваны.

А.К

**Надвор`е*** Агляд складзены па дадзеных за 31/03/2002 0:00 GMT

| | 4/4 Чц | 5/4 Пт | 6/4 Сб | 7/4 Нд | 6/4 Пн | 7/4 Ат | 8/4 Ср | 9/4 Чц |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Тэмпература: з 14 гадзін | +5 | +11 | +10 | +8 | +6 | +11 | +15 | +17 |
| з 2 гадзін | -9 | 0 | +1 | 0 | -2 | -5 | 0 | +3 |
| Ціск, мм рт.сл. | 756 | 752 | 749 | 750 | 755 | 756 | 750 | 747 |
| Тэндэнцыя ціску | -5 | -4 | -3 | +1 | +6 | 0 | -6 | -3 |
| Накірунак ветру | ПД-З | Зах | Зах | Пн-З | Пн | Пд | Пд | Пд-У |
| Хуткасць ветру, м/с | 2 | 3 | 2 | 4 | 2 | 1 | 2 | 3 |

© Gismeteo.Ru

Заўвага: прагноз надвор'я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

Падпісны індэкс на газету "Вольнае Глыбокае" -- 63668. Кошт падпіскі на месяц -- 1000 руб., на квартал -- 3000 рублёў.

Нагадваем, што наша выданне ўжо можна выпісаць і на Пастаўшчыне.

# Там, дзе была беларуская Мекка

**Некалі, як расказваюць нашы старажылы, іх дзяды хадзілі пешшу ў Вільню. Гэты горад для беларусаў быў своеасаблівай Меккай. За ўсю шматвекавую гісторыю ў нас не было межаў паміж Вільняй і Беларуссю. Нават пасля Рыжскай дамовы, калі наша краіна была падзелена паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, Вільня заставалася самым значным культурным цэнтрам Заходняй Беларусі.**

**Не было мяжы і пры Саюзе. І вось дзесяцігоддзе таму, пасля распаду савецкай імперыі, упершыню за ўсё існаванне Вільні, мы павінны ездзіць у сваю старажытную беларускую сталіцу па візе!**

**Тым не менш, цікавасць да Вільні, як да аднаго са стаўпоў, беларускай дзяржаўнасці не прападае. Там і цяпер жывуць беларусы.**

**Сёння мы прадстаўляем госця нашай газеты Паўла Саўчанку, які займаецца беларускай справай у Вільні. З ім сустрэўся Ул. Скрабатун.**




Фота Уладзіміра Скрабатуна

Павел Саўчанка

**У.С.:** -- Напачатку раскажыце, адкуль вы паходзіце, калі нарадзіліся.?

**П.С.:** -- Нарадзіўся ў ліпені 1938 г. у Суражскім раёне на Віцебшчыне, але сваёй радзімай лічу Шуміліна.

**У.С.:** -- Што Вас звязвае з нашым краем?

**П.С.:** -- Пасля сканчэння Віцебскага пединстытута, 15 жніўня 1961 г., 41 год таму назад, прыехаў у Крулеўшчыну працаваць настаўнікам хіміі і біялогіі. Працаваў да 1974 года. Ніводнага дня не быў на бюлетэні. У Глыбокае, праз Шуневічы, хадзіў пешшу набываць кнігі. Тут была добрая кнігарня.

У Крулеўшчыне прайшлі мае самыя лепшыя педагагічныя гады. Жаніўся, нарадзілася дзіця. 1 красавіка 1974 г. пераехалі ў Шуміліна. У школе яшчэ працавалі настаўнікі, якія мяне вучылі. Таму я стараўся, каб мне не было перад імі сорамна.

Кватэру нам, канешне ж, не далі, хаця і было ўжо двое дзетак. Жонка мая руская, з Вільні. Маці яе працавала там дырэктарам школы, бацька ў міністэрстве. Тут, раптам, памёр яе брат. Заставалася пустая кватэра. Адпрацаваўшы ў Шуміліне 8 год, мы пераехалі ў Вільню.

**У.С.:** -- Вы маеце грамадзянства Літоўскай Рэспублікі?

**П.С.:** -- Так. Я -- грамадзянін Літвы.

**У.С.:** -- Наколькі актыўна вірue беларускае грамадскае жыццё ў Вільні?

**П.С.:** -- У Літве 14 беларускіх грамадскіх арганізацый. Але гады 4 ці 5 таму назад, беларуская амбасада, па рэкамендацыях з Мінска, вырашыла аб'яднаць ўсе беларускія арганізацыі і кіраваць імі. Наш стары Лявон Луцкевіч, які выдаў кнігу "Вандроўкі па Вільні", сказаў: "Сябры, будзьце асцярожнымі. Дармавы сыр -- толькі ў мышалоўцы! Не спакусіцеся на яго!" Мы, якраз, і адышлі. Спачатку нас запрашалі і добра запрашалі... Узнікла Згуртаванне Беларусаў Літвы, якое ўзначаліў сп. Мурашка, былы оперны спявак. Канеўне ж, яны маюць вялікую матэрыяльную падтрымку. Ён кожны дзень ходзіць у беларускую амбасаду. Мы таксама прыходзім да амбасады з бел-чырвонабелымі сцягамі. Нас ужо зафатаграфавалі, нас ведаюць!

**У.С.:** -- Вы, асабіста, у якую беларускую арганізацыю ўваходзіце?

**П.С.:** -- У Таварыства Беларускай Культуры (ТБК) у Вільні, якое ўзначальвае сп. Х. Нюнька, наш стары шчыры беларус. Пры ТБК заснавана газета "Рунь". У сакавіку споўнілася пяць гадоў з дня выхаду першага нумару. Выйшла 45 нумароў. У газеце я займаю пасаду сакратара. Рэдагуе Алег Мінкін. Ніхто нам з Беларусі не дапамагае. Газета выдаецца коштам ахвярадаўцаў. Іх спіс і сумы ахвяраваных сродкаў мы падаём у кожным нумары на апошняй старонцы.

**У.С.:** -- Як распаўсюджваецца ваша газета?

**П.С.:** -- Наклад газеты "Рунь" -- 1000 паасобнікаў. У ЗША адпраўляем -- 85, Канаду -- 12, Англію -- 15, Аўстралію -- 15, а таксама паасобныя нумары ў Францыю, Германію, Ізраіль. У Беларусь -- 300 паасобнікаў. Так як газета "Рунь" -- не пажаданая на Беларусі, яе беларускія мытнікі двойчы на мяжы канфіскоўвалі. Гэтых людзей, якія везлі наклад, больш у Беларусь з Літвы не прапускаюць. Цяпер дадаводзіцца газету рассылаць у канвертах.

**У.С.:** -- Ці маеце Вы сталую працу ў Вільні?

**П.С.:** Я працую ў беларускай школе ў Вільні, якая налічвае 150 вучняў і мае 12 класаў. Я выкладаю біялогію. Беларускай амбасадзе гэта не падабаецца. І, што вы думаеце: школа ідзе на ўступкі амбасадзе. Але мне ўжо хваляваццa няма чаго -- я на пенсіі.

**У.С.:** -- Нас цікавіць: наколькі вялікая беларуская дыяспара ў Літве?

**П.С.:** -- Лічыцца, што яна дасягае 60 тыс. чалавек. Аднак, сапраўдных шчырых беларусаў, не так ужо і шмат. Да вайны Вільня з`яўлялася сапраўднай беларускай Меккай, беларускай сталіцай. Існавалі шматлікія беларускія арганізацыі, выдаваліся газеты. Пасля вайны ўсе беларускія дзеячы былі высланыя савецкай уладай у Сібір. Цяпер, у асноўным, дзеці тых, каму маці ці бацька ў 70-ыя гг. сказалі: "Мы напрацаваліся ў калгасе. Едзь, хоць ты пажыві ў горадзе!" Іх нічога не цікавіць, бо маюць кватэры, ёсць і выпіць, і закусіць, і дні са тры паляжаць на канапе.Ім кажуць, каб не прыходзілі да нас, бо не атрымаюць візы ў Беларусь. Гэта -- люмпен, страчаныя для Беларусі людзі.

Цяпер для іх з`явілася прынада. Ёсць дамоўленасць паміж урадамі Літвы і Беларусі штогод накіроўваць у ВНУ Беларусі да 20 чалавек. І, ажывіліся. Прыходзяць з тоўстымі кашалькамі. Але ведаў аніякіх, хоць прэтэндуюць на самыя прэстыжныя ВНУ Беларусі. Ужо ляжыць 60 заяў.

Так, што не так усё добра, як у вас тут пішуць.

**У.С.:** -- Дзякуй за гутарку. Плёну вам на ніве адраджэння беларушчыны ў нашай старажытнай сталіцы!

# Беларускія вайскоўцы вернуцца з Расіі

**У 2003 годзе беларускую армію пачнуць папаўняць выпускнікі расійскіх вышэйшых ваенных навучальных устаноў.**

На сённяшні момант у Расіі праходзяць навучанне 404 вайскоўцы беларускай арміі: 279 курсантаў і 125 афіцэраў, у тым ліку 14 афіцэраў -- у Ваеннай акадэміі Генеральнага штабу Расіі. Расійскія ваенныя спецыялісты рыхтуюць з беларусаў фінансістаў, спецыялістаў войскаў супрацьпаветранай абароны, лётчыкаў і іншых. Паведамляецца, што навучанне беларускіх вайскоўцаў праводзіцца за кошт сродкаў Мінабароны Беларусі. Тым часам Ваенная акадэмія Беларусі выпускае ў сярэднім 540 афіцэраў штогод, у тым ліку камандна-штабны факультэт рыхтуе 90 афіцэраў найвышэйшага звяна кіравання.

*Barsnews*

# Спецслужбы Літвы знайшлі выкрадзены уран

**Сенсацыяй стала паведамленне аб тым, што спецслужбы Літвы знайшлі частку урану, выкрадзенага ў 1992 годзе з Ігналінскай АЭС.**

Сяміметровую касету рэактара РБМК, якая важыць 270 кілаграмаў, злодзеі разрэзалі на часткі і схавалі ў розных месцах Літвы. У 1997 годзе, пасля арышту арганізатара гэтага крадзяжу камандзіра ўзвода аховы АЭС Рамунаса Мачараўскаса, былі знойдзены тайнікі ў Вісагінасе, Каўнасе, Вільнюсе. Злодзеі спрабавалі уран прадаць замежным спекулянтам, аднак гэта ім не ўдалося. Давялося здабычу схаваць. Цяпер знойдзены яшчэ адзін тайнік ва Уценскім раёне. 10 кілаграмаў урану было закапана на пустуючым полі недалёка ад шашы Вісагінас - Уцена.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, усяго ўжо знойдзена каля 100 кілаграмаў выкрадзенага урану. З"явілася надзея, што ў бліжэйшы час знойдзецца і астатні. Не выключана, што некаторая яго колькасць схавана і на тэрыторыі Беларусі, дзесьці недалёка ад літоўскага Вісагінаса.

*А.Бразайціс*



*Фота IREX /ProMedia*

# Пяць долараў -- трое сутак

**Нечакана завяршылася здзелка аб куплі-продажы на рынку "па чорнаму курсу" 5 амерыканскіх долараў для двух жыхароў Ваўкавыска.**

Пасля таго, як іх з доказамі злачынства затрымалі супрацоўнікі мясцовага аддзела ўнутраных спраў на транспарце, быў складзены адміністрацыйны пратакол па факту парушэння дэкрэта прэзідэнта аб валютных аперацыях. Пры гэтым у аднаго з мянял канфіскавалі 6.931 долар ЗША, 2.125 еўра, 7.630 расійскіх і 60.500 беларускіх рублёў, а таксама 800 польскіх злотых. Яго кампаньён страціў 111 амерыканскіх долараў і 8 тысяч беларускіх рублёў.

Аднак і гэта яшчэ не ўсё. Суды розных інстанцый больш за месяц разглядалі матэрыялы па факту парушэння дэкрэта прэзідэнта і, нарэшце, суд Ваўкавыскага раёна паставіў апошнюю кропку ў гэтай справе. Суд аб"явіў аб арышце кожнага мянялы на 3 сутак. А пачыналася справа, нагадаем, усяго з 5 амерыканскіх долараў.

*К.Балатэвіч*

# BMW будуць збіраць у Барысаве

**У часе свайго адпачынку ў Аўстрыі А.Лукашэнка правёў перамовы са старшынёй канцэрна BMW Ёханам Мільбертам.**

У выніку было падпісана пагадненне, згодна з якім у Барысаве будуць збірацца нямецкія аўтамабілі BMW. Плануецца, што нямецкі аўтамабільны канцэрн атрымае кантрольны пакет акцый барысаўскага завода «Аўтагідраўзмацняльнік», на базе якога і будуць збірацца BMW. Інфармацыйнае агенцтва «Pravdin. net» са спасылкай на крыніцу ў кіраўніцтве канцэрна BMW паведамляе, што нямецкія аўтамабілебудаўнікі гатовы ўкласці ў развіццё барысаўскага прадпрыемства каля 25 млн. еўра. Немцы ўжо маюць 4-гадовы паспяховы вопыт зборкі сваіх BMW у Калінінградзе (Расія). Ужо ў другой палове гэтага года ў Барысаве плануецца адкрыць філіял BMW з мяркуемай магутнасцю ў 10 тысяч аўтамабіляў штогод. А першая вопытная партыя аўтамабіляў BMW сыдзе з канвеера 1 красавіка 2003 года. Праўда, напачатку на заводзе «Аўтагідраўзмацняльнік» будуць рабіць толькі 2/3 зборачных аперацый: поўная зборка кузава, але без зваркі і афарбоўкі. І толькі ў 2003, пасля дадатковых інвестыцыяў у памеры 10 млн. еўра, завод запрацуе на поўную магутнасць. Акрамя таго Лукашэнка настаяў на тым, каб для барысаўцаў аўтамабілі прадаваліся па спецыяльным кошце, а першая тысяча BMW з барысаўскага канвеера будзе мець спецыяльную гравіроўку «С благодарностью, Президент Лукашенко» і будзе раздадзена цалкам бясплатна. Уласнікамі дармавых BMW стануць пенсіянеры і выдатнікі бюджэтнай сферы. Па інфармацыі з прэс-службы прэзідэнта, гэта будзе яго падарункам да 900-годдзя Барысава і адначасова ўдзячнасцю за падтрымку на прэзідэнцкіх выбарах. А ўвогуле, сярэдні кошт новага BMW каля 40 тысяч долараў.

*Алег Скатарэнка*

# "Канала БТ-2 не будзе". Будзе ОНТ

Не пазней за другую палову мая ў Беларусі зявіцца яшчэ адзін тэлевізійны канал, беларуская абрэвіятура якога гучыць як АНТ - "Агульнанацыянальнае тэлебачанне". Праўда, ёсць падставы меркаваць, што ў шырокім ужыванні будзе ўсё ж такі расійская версія назвы - ОНТ, бо тэлеканал будзе "дзяліць кнопку" з расейскім тэлеканалам ОРТ і, хутчэй за ўсё, вяшчаць па-руску.

*«RR»*

# Рэгіён


Старадаўняя рынкавая плошча ў Паставах. Дамы А. Тызенгаўза, 18 ст. Архітэктар Д.Сака

Фота У. Скрабатуна

## Хлеб на кірмашы

Да гэтага часу помніцца мне расповед бацькі аб яго службе ў войску. Ён паспеў крыху павяваць, з 44-га, а потым, пасля вайны, да 50-га цягнуў салдацкую лямку. Дык вось, расказваў бацька, як аднойчы атрымаў з дому невялікі грашовы перавод. Дзядуля нешта наскроб з тады яшчэ прыватнай гаспадаркі. Бацька пайшоў на кірмаш, купіў там кілаграм хлеба і за адзін раз з'еў яго. Галаднавата жылі салдаты, зразумела. Але мяне больш здзівіла тады: хлеб прадаваўся на кірмашы. У крамах ён быў па картках, ну а на кірмашы -- за наяўны разлік ці ў абмен на што-небудзь каштоўнае.

З дзяцінства я яшчэ памятаю хлеб па картках. А вось хлеба на кірмашы бачыць не даводзілася. Не, ён там прысутнічаў, але ў дзяржаўных крамах ці аўталаўках, як спадарожны прадукт. Купіў чалавек нешта перакусіць, трэба ж і хлеба луста. А яна толькі ў дзяржаўнай гандлёвай установе і толькі па цвёрдай дзяржаўнай цане.

Сёння гэта далёка не так. Ужо некалькі гадоў на нядзельных пастаўскіх кірмашах вядзецца гандаль хлебам непасрэдна з мясцовага хлебазавода. Ён значна танней, таму стабільна збіраюцца чэргі людзей, хто хоча хоць на бохане крыху выйграць.

Але з нядаўняга часу на кірмашы выстройваюцца чэргі і за іншым хлебам. Нейкі прадпрымальнік рэгулярна прывозіць на кірмаш гатункі сталічнага падавога хлеба, у сучасных цэлафанавых упакоўках. Мястачковы люд упадабаў гэты смачны хлеб і аддае яму перавагу, па крайней меры тыя, хто на хлеб грошы яшчэ не лічаць. Але вось цікава, гэты прадпрымальнік рэгулярна падымае цану на прадукцыю, якую, зразумела ж, перапрадае, сам не вырабляе, а кошты на паліва ўжо доўгі час не падымаліся. Людзі не задаволеныя, але ж купляюць, бо смачна.

*Д.Собаль*

Чытацкая пошта

## Любоў да роднай мовы -- гэта, як любоў да роднай маці

*Быць маці – значыць заўсёды быць у клопаце,*
*Быць маці – значыць прысвяціць сваё жыццё некаму іншаму,*
*Быць маці – значыць зведаць бясконцыя ночы,*
*Быць маці – значыць пазнаць сапраўднае шчасце.*
*Божа, дзякуй Табе за тое, што я – маці!*

*Алена Грыгор'ева*

**Добры дзень!**

Скажу шчыра: адношуся да большасці, якая моўчкі згаджаецца, а калі нават і не згаджаецца, то нічым не выказвае сваё абурэнне. Не самая лепшая пазіцыя, згаджуся, але, напэўна, такі ўжо ў нас менталітэт, які заўсёды падкажа: «Не высоўвайся, бо ўсё роўна нічога не зменіш, а табе яшчэ горш будзе!» Але ж сэрца не абшукаеш. І баліць душа, калі бачыш увесь гэты бруд.

Падумаць толькі, дажыліся: таго, што больш-менш прыстойна размаўляе на беларускай – роднай мове! – мы называем не інакш, як "бэнэфаўцам"! Толькі ці можа хто дакладна сказаць, што гэта за чароўнае "БНФ", якое надае ўсім жаху? Можа наш глава дзяржавы таксама баіцца быць прылічаным да гэтай арганізацыі, таму і стараецца размаўляць парускуу?

Справа, канечне, не толькі ў гэтым, мы самі вінаватыя, што закрываем вочы і вушы на бязглузда напісаныя вывескі і стэнды, на сродкі масавай інфармацыі – радыё і тэлебачанне і ўвогуле на ўсё тое, што вырабляюць з нашай роднай мовай.

Таму я хачу нізка пакланіцца, падзякаваць і пажадаць далейшых поспехаў тым, хто любіць, цэніць, шануе, не цураецца роднага слова, а таксама спрабуе данесці яго да кожнага чалавека – стваральнікам мясцовага праменьчыка ў цёмным царстве" – газеце "Вольнае Глыбокае". Заўсёды чытаю газету "ад коркі да коркі" і здзіўляюся: колькі ў ёй шчырасці і дабраты. Нават калі чытаеш пра непрыемныя рэчы, хочацца сказаць: "Дзякуй за тое, што адкрываеце нам вочы, што клапоціцеся пра "забітых" калгаснікаў, на якіх даўно ўжо махнулі рукой. Здаецца, газета нікога не пакідае раўнадушным, прымушае задумацца і паразважаць, дазваляе даведацца пра гісторыю нашага краю, якую мы не ведаем зусім. Вось за гэта вам шчырае дзякуй!

*З павагай Грыгор'ева Алена, Шаркоўшчынскі раён*

## Бычыная хвароба

Жылі ў адным цялятніку быкі. Нічога сабе быкі, здаровыя. Цяляткамі іх даўна сорамна было называць. Бывала, махане такое «цялятка» сваёй шыяй -- і жардзіна агароджы аж да столі ляціць, а ланцуг у палец таўшчыні разлятаецца, як той ружанчык у разгневаных руках. І радаваліся даглядчыкі, і радавалася калгаснае кіраўніцтва -- будзе што везці на мясакамбінат. І не нейкіх там здыхлякоў.

Ды толькі раптам надыйшлі нечаканыя часы. Сталі прыкметна здаваць быкі. Панурыя нейкія, а хто ўжо і хістаецца. А далей горш - страты пачаліся.

Дайшло да таго, што ўжо не толькі вартаўнік, але і яшчэ два мужыкі штоноч дзяжурылі на ферме. І з вельмі празаічнай прычыны. Як убачаць, што які бык захістаўся, вось-вось з ног зваліцца - тут жа, прабачце, за нож. І няма чарговай галавы ў статку.

Якія толькі камісіі ні прыязджалі ў калгас, якія толькі даследванні ні праводзілі. Быкі нібыта і здаровыя, хвароб ніякіх не знаходзіцца, а на табе - ніякавеюць на вачах. Кармоў? Хапае. І травяных і нават мучных.

**У чым жа прычына?**

Мясцовы люд, відаць што, аб нечым здагадваўся. Свае ж, ім тут кожная драбніца знаёмая. А вось высокаму начальству мясцовая ферма ўжо выдавала нейкай анамаліяй, дзе б і навукова-даследчы інстытут дараіла стварыць.

Ды толькі прыехаў аднойчы на ферму ветурач без асаблівых званняў, ды з вялікім стажам. Пахадзіў, паглядзеў. А потым і пытае:

-- Скажыце, а чым вы раней быкоў акрамя сенажу кармілі?

-- Як чым, бардой з Лынтупскага спіртзавода.

-- А чаму цяпер не корміце?

-- Дык на спіртзаводзе рамонт , акрамя таго сыравіны не стае.

-- Ага, -- кажа ветурач з вопытам, -- барды не стала.

(Для гараджаніна, ва ўяўленні якога ўсё спіртное - гэта толькі дарунак сонечных ягад, патлумачым : спірт на Беларусі ўсцісуць альбо з зерня альбо з бульбы, ну а тое, што застаецца пасля яго ціску, выжымкі -- гэта і ёсць барда.).

Пахадзіў яшчэ ветурач і вынес свой прысуд:

-- Алкаголікі вашы быкі. Прытым, хранічныя. І калі ў бліжэйшы час спіртзавод не запрацуе -- можна пускаць увесь статак пад нож. Лячыць яго можна толькі бардой. Бо там яшчэ градусаў – ого, колькі.

Завод у рэшце рэшт запрацаваў, крызіс на ферме мінуўся. Але пасля гэтага на вёсцы, калі ўбачаць на вуліцы якога бедака на няцвёрдых нагах, з таемным бляскам у вачах -- адразу вызначаюць: «бычыная хвароба». І хто нясквапны --дапамагае.

*Алесь Касцень*

# Вёсцы патрэбна Воля!

**Сельскую гаспадарку лічаць падмуркам эканомікі любой дзяржавы. Бо вёска – гэта хлеб, гэта пачатак таго ланцужка, звонкі якога складаюць дабрабыт грамадства. Пра эканамічны стан калгасаў і саўгасаў я нічога не скажу. Агульнавядома, што большасць гаспадарак калі і трымаецца на плыву, перспектывы, што яны выплывуць, няма. Апошнія гады па ўсіх паказчыках вёска ішла ў гібельным напрамку, але тое, што адбываецца зараз – самае горшае з таго, што магло адбыцца. Я маю на ўвазе сацыяльны бок жыцця вёскі. Бо зараз пачалася масавая ліквідацыя ўмоў, сістэмы сацыяльных паслуг, без якіх жыццё на вёсцы спыніцца. Да такога выніку прывядуць рашэнні ўлад аб закрыцці школ, магазінаў, аддзяленняў сувязі і г. д.**

Але спачатку хачу прапанаваць Вам, шаноўныя чытачы, адказаць на пытанне: "Што галоўнае ў эканоміцы?" Думаю, што мне б назвалі некалькі законаў, якія ў эканамічнай навуцы лічацца галоўнымі. І ўсё будзе правільным. Але галоўны фактар любой эканомікі – людзі. Без чалавека ні адна гаспадарка працаваць не зможа. Толькі здаецца мне, што ўсе нашы эканамісты, палітыкі, уладныя чыноўнікі і слугі народа проста забыліся пра гэта. Бо падмурак эканомікі – вёска. Але яна на апошнім месцы ва ўсіх планах і рашэннях, якія толькі прымаюцца сёння.

Людзі старэйшага веку, напэўна, памятаюць, што было з калгасамі ў канцы 60-х гадоў. На гэты час прыйшлося маё дзяцінства. І самым жудасным успамінам засталася ў памяці калгасная ферма, дзе вясной падвязвалі кароў, бо знясіленыя, яны ўжо не трымаліся на нагах. Іх кармілі саломай, якую здымалі са стрэх. І як толькі сышоў снег, няшчасную жывёлу выносілі на поле, падымалі і падтрымлівалі, а каровы саскубвалі мінулагоднюю жухлую траву. Затое навокал на ўсіх палях сеялі кукурузу, якая ў нашай мясцовасці не расла. Усё гэта называлася "валюнтарысцкімі метадамі вядзення сельскай гаспадаркі."

Здаецца, надыйшоў час, калі ўсё паўтараецца зноў. Ва ўсялякім разе ў мінулым годзе, калі калгасныя статкі выганялі ў поле, жывёліны кладзіся на зямлю, не маючы сілы ісці. Не лепшае чакаецца і ў гэтым годзе.

Параўнайце, ці не падобныя сучасныя калгасы на тых худых кароў, якіх падпіраюць з усіх бакоў. І хоць ледзь трымаюцца на нагах "калгасы-каровы", іх старанна дояць з усіх бакоў. Не думаюць, што здохне скаціна і не будзе каго даіць. Спачатку дагледзець жывёлу трэба, стварыць неабходныя ўмовы, тады і вынік будзе.

З году ў год пасяўная ды ўборачная кампаніі – галоўны клопат кіраўнікоў усіх узроўняў. Ужо каторы год прымусова вырашаюцца пытанні, якія вырашыць павінны самі вяскоўцы. Але іх прымушаюць браць крэдыты, дыктуюць: што, калі і дзе сеяць, як убіраць. Вёсцы навязваюць кіраўнікоў і метады гаспадарання. А пачынаць трэба з людзей. Тых, што яшчэ засталіся на вёсцы, бо, калі палітыка ў адносінах да вяскоўцаў не зменіцца – разбягуцца і астатнія. Рухне падмурак эканомікі.

З пачатку 70-х гадоў пачаліся рэформы на вёсцы, крыху далі ёй самастойнасці (хоць кіруючая роля КПСС заставалася), сталі ствараць умовы для больш-менш нармальнага жыцця на вёсцы. Будаваліся школы і садкі, ФАПы і прыёмныя пункты КБА, дарогі, гаспадарчыя памяшканні, адкрываліся аўтобусныя маршруты, у вёскі далі газ. І змены, якія адбыліся літаральна за 10 гадоў вы добра памятаеце. На вёсцы аднаўлялася жыццё. Пачаўся прыток адукаванай моладзі, ствараліся сем'і, нараджаліся дзеці. Вёскі ажывалі, маладзелі, у іх была будучыня.

Што ж адбываецца зараз? Знішчаецца апошняя сацыяльная база, дакладней, яе рэшткі. І ўжо недалёка той час, калі будуць засяваць, а потым убіраць "вахтавым метадам", кідаючы "гарадскія дэсанты".

Часта чую: "У вёсцы засталіся толькі старыя ды п'яніцы. Першыя дажываюць з горам папалам, а на апошніх няма ніякай надзеі". Так, вёска п'е. Але мінулай вясной адбыўся адзін выпадак, які прымусіў думаць па-іншаму. Недалёка ад маёй хаты працаваў трактар. Не буду называць імя механізатара, скажу толькі, што мае ён рэпутацыю закончанага п'яніцы. Дзень быў сонечны, прыгожы, і трактарыст, палічыўшы на зорцы, палову сутак уздымаў ворыва, паласу за паласой, прыпыніўшыся толькі на кароткі абед. Да вечара поле перамянілася. Яно ажыло, зямля задыхала цеплынёй, гатовая прыняць зерне. А на краі поля стаяў чалавек, той самы трактарыст-п'яніца. Упершыню я ўбачыла ў ім тое, чаго раней не заўважала. Ён стаяў стомлены, але як свяціліся яго вочы! На поле глядзеў працаўнік-селянін, які корміць дзяржаву. Ён цешыўся зробленай справай, і ў яго поглядзе я ўбачыла лепшыя чалавечыя рысы, убачыла гонар, павагу да зямлі і да сябе – у той момант я бачыла перад сабой асобу. У той момант. І зараз я веру, калі дзяржава створыць умовы для нармальнай творчай працы і адпачынку, якія гэтыя людзі заслугоўваюць, і на якія маюць права – жыццё на вёсцы пераменіцца.

Не кіраўніцтва, а гэтыя п'яніцы, калі іх зацікавіць – толькі яны зробяць цуд. І адзінае, што трэба, - дастойна плаціць ім за працу і даць магчымасць самастойна гаспадарыць. Яны самі вырашаць, што ім ствараць – фермерскія гаспадаркі або калгасы, кааператывы або нешта іншае. Яны выцягнуць вёску з таго балота, куды яна была зацягнута ў апошнія гады.

Я ў гэта веру.

*Сафія Табола*

# Чэмпіёнка з Глыбокага

**Добрай навіной і прыемным сюрпрызам аказалася перамога Святланы Гілеўскай у чэмпіянаце Беларусі па рускіх шашках. Чэмпіёнскі тытул атрымала глыбачанка, якая пачала свой спартыўны шлях у мясцовым Доме піянераў.**

У далёкім 1985 годзе Святлана прыйшла "на шашкі" да свайго будучага трэнера Антона Альбертавіча Бацяноўскага. Менавіта ён запрасіў пяцікласніцу Свету з шахматнага гуртка да сябе на заняткі. Пачаліся трэніроўкі, спаборніцтвы. Тады, у школьныя гады, яна і паспрабавала свае сілы на абласных і рэспубліканскіх турнірах, за шашачнай дошкай



пазнаёмілася са сваімі саперніцамі па будучых чэмпіянатах. Яшчэ вучаніцай яна паспытала смак перамогі.

Закончыла СШ №3 у Глыбокім з сярэбраным медалём, паступіла ў Мінскі педагічны інстытут на аддзяленне фізікі і матэматыкі. Пасля яго заканчэння два гады працавала ў Глыбокім Цэнтры пазашкольнай і выхаваўчай работы (былы Дом піянераў).

Цяпер Святлана Гілеўская жыве ў Мінску, працуе менеджэрам.

Майстар спорту па шашках, наша зямлячка ўпершыню стала чэмпіёнкай. Рэспубліканскія спаборніцтвы, якія прайшлі ў Віцебску ў сакавіку, сабралі восем мацнейшых шашыстак з Мінска, Віцебска, Гродненскай і Мінскай абласцей. Святлана набрала 16 ачкоў з 20 магчымых, а яе перамога для ўсіх удзельнікаў стала нечаканай: усе прызвычаіліся, што на такіх турнірах марку трымае віцебская школа шашачнай гульні. Яе працавітасць і прага да перамогі сталі мацней за тытулы. Мы ганарымся табой, Святлана, і зычым перамог на міжнародным узроўні!

*Ю. Калбасіч*

# Не пішыце ананімак

На гэтым тыдні наша газета атрымала пісьмо ад жыхара вёскі Старыя Шарабаі, у якім ён апавядае пра тое, як у калгасе "Парыжская камуна" дзялілі гуманітарную дапамогу. Сутнасць пісьма ў тым, што ў калгас з раёна прыйшла гуманітарная дапамога для малазабяспечаных сем'яў, дзелячы якую, работнікі канторы лепшае пакінулі сабе. Аўтар называе канкрэтныя прозвішчы людзей, якія,на яго думку, дапусцілі несправядлівасць і вельмі просіць апублікаваць яго пісьмо. Але зрабіць гэта мы не можам, паколькі аўтар пісьма не падпісаўся пад ім, гэта значыць, пісьмо з'яўляецца звычайнай ананімкай.

У сувязі з гэтым хацелася б сказаць вось што. Колькі ж яшчэ нам трэба часу, каб навучыцца самім адказваць за свае дзеянні. Многія з нас, хто пражыў некаторы час пры так званым развітым сацыялізме, прывыклі да таго, што нехта нам павінен нешта даць, знайсці нам працу, гадаваць нашых дзяцей. Самі ж для гэтага не хочам прыкласці мінімум намаганняў. "Хай начальства думае, у яго галава большая",— часта даводзілася пачуць ад простых працаўнікоў. Яно і думае, але ў першую чаргу не пра нас, а пра сябе. І, у значнай ступені, не таму, што яно дрэннае, а таму, што мы так самі дазваляем паступаць з сабой. Маладзейшае пакаленне, каму цяпер менш за трыццаць, у значнай ступені пазбаўлена гэтага комплексу, яно хутчэй і лягчэй прыстасавалася да жыцця ў цяперашні нялёгкі час.

Просячы апублікаваць ананімнае пісьмо, аўтар яго хоча перакласці адказнасць за дакладнасць фактаў на нашу газету. Ён хоча дабіцца справядлівасці чужымі рукамі, сам пры гэтым застаўшыся ў баку. Але дапамагчы чалавеку можна ў тым выпадку, калі ён для гэтага штосьці робіць і сам.

І на заканчэнне хочацца звярнуцца да нашых чытачоў з просьбай не пісаць ананімак. Калі вы ўпэўнены ў правільнасці вашага пункту погляду, то смела адстойвайце яго.

*Зміцер Лупач*

## Над глыбоцкім небам мы зноў убачым камету



Яшчэ 1 лютага японскі астраном Каору Ікейа і яго калега з КНР Дакінг Жанг заўважылі ў сузор'і Кіта невядомую да сённяшняга часу камету, якая выглядала як слабая пляма без хаця якога падабенства на хвост. Цяпер камета Ікейі-Жанга набліжаецца да Сонечнай сістэмы, з-за чаго яе яркасць пастаянна павялічваецца.

Згодна апошнім разлікам арбіты каметы, пункту перыгелія, які адпавядае бліжэйшай адлегласці да Сонца, яна дасягнула 18 сакавіка. У той час камета знаходзілася на адлегласці 75,8 млн.км. ад Зямлі. Пасля таго, як камета абагне Сонца, яна зноў набліжацца да Зямлі, і 28 красавіка будзе знаходзіцца на адлегласці 60,5 млн.км. ад нашай планеты. Лепш усяго камета будзе бачна ў Паўночным паўшар'і ў паўночна-паўночна-ўсходнім участку неба, прычым, у перыгеліі яе можна будзе назіраць няўзброеным вокам. З'яўленне каметы будзе адбывацца прыкладна праз гадзіну пасля заходу сонца. Пасля першага тыдня красавіка камету Ікейі-Жанга можна будзе назіраць ў паўночна-ўсходнім участку неба ў ранішнія часы.

Цікава адзначыць, што шмат якія астраномы схіляюцца да думкі, што камета Ікейі-Жанга не можа лічыцца зусім новай. Пасля разліку яе арбіты шэраг спецыялістаў звярнулі ўвагу на падабенствa з каметамі, якія з'яўляліся ў небе Зямлі ў 1532 і 1661 гадах. Так, на думку Брайана Мардсена, супрацоўніка Смітсаніанскай астрафізічнай абсерваторыі ў Кембрыджы, штат Массачусетс, перыяд звароту каметы, хутчэй за ўсё, складае 400-500 гадоў, г. зн. яна магла прайсці паблізу Сонечнай сістэмы як раз у 1532 г.

***Па матэрыялах прэсы.***

## Беларусы сталі менш мыцца

Па дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу сярэднестатыстычная беларуская сям'я ў IV квартале 2001 года штомесяц траціла каля 126 долараў. Больш паловы грошай беларускія сем'і трацяць на харчовыя прадукты. У сталіцы на харчаванне людзі трацяць у два разы больш, чым у сельскай мясцовасці. І што самае цікавае, беларусы амаль не трацяць грошай на прадметы гігіены.

## Ці загучыць "Радыё Бі-Эй" у Глыбокім

Найстарэйшая беларуская FM-станцыя "Радыё Бі-Эй", якая існуе ўжо 9 год, сёлета плануе пашырыць дыяпазон свайго вяшчання. Радыё можна будзе пачуць у Віцебску, Полацку, а, магчыма, што і ў Глыбокім! «Бі-Эй» мае надрэнны трэк-ліст – суадносіны паміж заходняй і рускай музыкай прадстаўляюць 50 на 50 працэнтаў. Ёсць шмат праграм, дзе можна выйграць шыкоўныя прызы, сярод якіх тэлевізары, відэамагнітафоны і магнітолы. У 1999г. "Бі-Эй" паспрабавала змяніць фармат – вяшчала толькі беларускую, расійскую і ўкраінскую музыку, але, напэўна, гэта сказалася на папулярнасці станцыі і з 2001г. на радыё зноў загучалі лепшыя хіты з усяго свету. Па дадзеных лабараторыі "Новак" "Бі-Эй" зараз утрымлівае да 30% мінскіх радыёаматараў.

З'яўленне новай станцыі ў FM-дыяпазоне вельмі актуальнае для Глыбокага, дзе дагэтуль гучыць адна толькі "Сталіца", а ноччу замаўкае і яна. А вось "Бі-Эй" у эфіры ўсе 24 гадзіны на суткі.

*А.Храпавіцкі*

# Валерый Тарыкаў

**едзе з Глыбокага ў Іспанію, каб сваімі ведамі і адкрыццямі заявіць усяму свету аб існаванні краіны Беларусь.**



**На здымку:** Валерый Тарыкаў, лекар-псіхафізіёлаг, Магістр Усходняй Медыцыны вышэйшай міжнароднай катэгорыі. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Мы ўжо паведамлялі ў нашай газеце ("ВГ", №№ 7-8 за 2001 г.), што на Сусветным кангрэсе дзеячоў культуры "Вынікі тысячагоддзя", які адбыўся 21-23 лістапада 2000 г. у Таўрычаскім палацы г. Санкт-Пецярбурга, даклад Валерыя Тарыкава, прысвечаны расшыфроўцы надпісаў на Фестскім дыску, для многіх прысутных падаўся вартым увагі. Выказвалася меркаванне, што высновы, якія зрабіў сп. Тарыкаў, годныя апублікавання і ў салідных міжнародных часопісах. Паводле прачытання дыску з дапамогай матэматычных формул глыбоцкім энтузіястам -- на ім пакладзена Таямніца Светаўтварэння, пасланне з Сусвету. Як сцвярджае Валерый, ім расшыфраваны запіс праграмы эвалюцыйна-біялагічнага развіцця чалавецтва на наступныя 1000 гадоў. У гэтым тэксце пададзены напрамкі развіцця новых навук, новыя ўяўленні аб відах часу, адкрыты новы від біялагічнай энергіі.

Нагадаем, што Фестскі дыск знайшлі на выспе Крыт італьянскія археолагі ў 1908 годзе. Змест надпісаў на ім да сённяшняга часу лічыцца недасягальнай таямніцай.

**Перад ад'ездам аўтар гэтых радкоў сустрэўся з Валерыем Тарыкавым і задаў некалькі пытанняў.**

**У.С.:** -- Якая мэта Вашай паездкі?

**В.Т.:** -- Маю запрашэнне ў Іспанію. Буду чытаць даклад, які прысвечаны тэме Фестскага дыску. Я буду адзіны, напэўна, выступоўца ад Беларусі. Наведаю такія гарады як Алікандэ, Сарагоса і інш...

**У.С.:** -- На якія даты прыпадае Ваша паездка ў Іспанію?

**В.Т.:** -- З 7 па 21 красавіка гэтага года.

**У.С.:** -- Якіх вынікаў чакаеце ад гэтай міжнароднай сустрэчы?

**В.Т.:** -- Пастараюся сваімі ведамі і адкрыццямі заявіць усяму свету аб існаванні краіны Беларусь, бо нас ніхто не ведае.

**У.С.:** -- Тэма Фестскага дыску будзе адзінай, якая разглядаецца ў Іспаніі?

**В.Т.:** -- Не. Будзе пяць тэм, сярод якіх і медыцынская.

**У.С.:** -- На такую паездку патрэбны вялікія грашовыя сродкі. Вы знайшлі фундатара?

**В.Т.:** -- Колькі я не шукаў спонсара, "біўся як рыбіна аб лёд", выніку аніякага, ніхто не адгукнуўся. Паеду коштам свайго невялікага сямейнага бюджэту.

**У.С.:** -- Калі Вас не ацанілі ў Глыбокім, нават на Беларусі, маючы міжнародные прызнанне, не збіраецеся Вы пашукаць "лепшай долі" за межамі нашай краіны?

**В.Т.:** -- Я маю самыя лепшыя рэкамендацыі. Такое пытанне ў Іспаніі разглядацца будзе. Магчыма, застануся там на сталую працу, а потым пераедзе сям'я.

**У.С.:** -- Поспехаў Вам! Чакаем ад Вас прыемных навін, аб якіх мы паведамім чытачам на старонках "Вольнага Глыбокага".

*У.Скрабатун*



**На здымку:** Фестскі дыск. Выгляд вонкавага і зваротнага бакоў.

ЛІСТ МАЛЕНЬКАГА ЧЫТАЧА

# Адкуль з'явіліся куры?

**Гэта апавяданне даслала нам вучаніца 5 "Е" класа СШ №3 г. Глыбокае Надзея Дудкевіч, якое яна напісала ў 8 год.**

Даўным-даўно жылі на свеце пеўні. Калі пеўні нараджаліся і крыху падрасталі, яны ішлі ў садок. Пасля садка яны траплялі ў школу. У школе іх спачатку вучылі, як зрабіць так, каб быў вельмі прыгожы і вялікі хвост. Ім казалі, што трэба больш есці макрыцы, больш рамонак, больш лебяды. Тады і будзе вельмі прыгожы і вялікі хвост.

Адны пеўні слухалі і елі такую траўку, таму ў іх выраслі вялікія і прыгожыя хвасты. А другія дрэнна выконвалі заданне, і ў іх выраслі зусім маленькія хвасты. Настаўнікі кажуць: "Гэта яшчэ нічога, што маленькі хвасты, паглядзіце, што будзе далей".

Далей пеўнікам казалі, як зрабіць, каб быў вялікі грэбень. Для гэтага трэба больш есці вітамінаў і морквы, агуркоў і іншай гароднiны і садавіны. Адны пеўні елі тое, што патрэбна, другія не. Вось у іх і выраслі маленькія грэбні. А ў тых, хто еў тое, што трэба, выраслі грэбні, як у сапраўдных пеўняў. Потым настаўнікі гавораць: "Калі маленькі грэбень, гэта нічога. Паглядзім што будзе далей".

Потым пеўні пачалі вучыцца, як трэба вадзіць куранят. Адны пеўні, якія мелі прыгожыя хвасты і вялікія грэбні, не навучыліся вадзіць куранят. А пеўні з малымі грэбнямі і малымі хвастамі навучыліся.

Настаўнікі кажуць: "Гэта таксама не бяда".

Потым вучыліся несці яйкі. Але пеўні, якія мелі прыгожыя хвасты і вялікія грэбні, не сталі вучыцца несці яйкі. Яны дужа ганарыліся сваімі хвастамі і грэбнямі. Яны заўжды хваліліся перад тымі, у каго былі малыя грэбні і хвасты. І ад гэтага ў іх з'явіліся звонкія галасы.

А тыя пеўні, якія навучыліся несці яйкі і вадзіць куранят, ператварыліся ў кур. Вось адкуль і пайшлі куры.

# Мюнхгаўзен пахаваны ў Глыбокім

**Па Глыбокаму пайшоў розгалас: на цвінтары Копцеўка пахаваны сам барон фон Мюнхгаўзен.**



**На здымку:** агульны выгляд надмагільнага помніка **фон Мюнхгаўзену** на глыбоцкім цвінтары Копцеўка

Мы вырашылі спраўдзіць гэты факт. Сапраўды, у самай старой частцы цвінтара, дзе знаходзяцца пахаванні сярэдзіны XIX ст., быў выяўлены літы чыгунны надмагільны крыж, на якім меўся надпіс па-нямецку: **"Фердынанд і Вільгельміна фон Мюнхгаўзен"**. На другім баку крыжа напісана: **"Памёр 31сакавіка 1878 г."** На сёння не вядома хто былі Фердынанд і Вільгельміна Мюнхгаўзены. Магчыма, муж і жонка. Аднак, як сцвярджаюць знаўцы нямецкай мовы, дадатак **"фон"** сведчыць, што яны не былі сялянамі, як мінімум -- уладальнікі маёнтка.

Наўрад ці глыбоцкі Мюнхгаўзен быў прататыпам вядомага літаратурнага твора, аднак пакорпацца ў гістарычных хроніках можа і варта. Мінуўшчына хавае шмат таямніц.

Вядомую кнігу «Аповяд барона Мюнхгаўзена пра яго цудоўныя вандраванні і паходы ў Расію» напісаў Энрых Распэ, а ён нейкі час служыў у войску Расіі і змагаўся супраць Турцыі. Дарэчы, прататыпам Мюнхгаўзена быў кірасір -- паручык-ротмістр рускай арміі, вясёлы немец, невычэрпны на выдумкі Карл-Фрыдрых-Іеранім барон Мюнхгаўзен-аўф-Бодэнвердэр. Магчыма, глыбоцкі Мюнхгаўзен яму даводзіцца сынам альбо сваяком.



**На здымку:** фрагмент адваротнага боку крыжа, дзе чытаецца надпіс па-нямецку -- **GESTORBEN 31 MÄRZ 1878.**



**На здымку:** фрагмент чыгуннага надмагільнага крыжа, дзе чытаецца надпіс па-нямецку -- **FERDINAND u. WILHELMINE von MÜNCHHAUSEN.**

# Супраць памяці

Супраць упарадкавання «могил вражеских солдат», а менавіта загінулых у Беларусі ў час апошняй вайны нямецкіх вайскоўцаў, выступіла кіраўніцтва Мінскай гарадской арганізацыі «Движение за социальный прогресс и справедливость» (ДСПС). Яны лічаць непатрэбным ушаноўваць памяць ахвяр Другой Сусветнай вайны з нямецкага боку. Заява ДСПС звязаная з адкрыццём 26 сакавіка ў Мінску прадстаўніцтва Народнага Саюзу Германіі для догляду пахаванняў ваеннага часу. Паводле звестак нямецкага боку, у Беларусі спачываюць рэшткі 100-150 тысяч нямецкіх вайскоўцаў і 30-40 тысяч ваеннапалонных. Германія на ўпарадкаванне магіл гатовая выдаткоўваць больш за паўмільёна еўра штогод. На думку сяброў ДСПС «в требовании обустройства могил немецко-фашистских захватчиков содержится стремление обелить фашизм», з мэтаю - рыхтаванне «к повторению «подвигов» фашистов на нашей земле».

*«RR»*

# МАК сурова пакараў урача беларускай алімпійскай каманды

Выканком Міжнароднага алімпійскага камітэта сурова пакараў урача беларускай каманды Яўгена Ласіцкага. Як паведаміў генеральны сакратар НАК Анатоль Іваноў, гэты вердыкт вынесены ў сувязі з допінгавым скандалам у час Гульняў. На папярэднім слуханні па гэтай справе ў штаб-кватэры МАК Ласіцкі заявіў, што ў лячэбных мэтах даваў хакеісту Васілю Панкову адну з харчовых дабавак, у якой затым і быў выяўлены анаболік. Гэта і стала падставай для прыцягнення да адказнасці - урач пазбаўляецца акрэдытацыі на Алімпійскіх гульнях аж да 2008 года. Што датычыцца Панкова, то канчатковае рашэнне па яго пытанню прыме выканком Міжнароднай хакейнай федэрацыі. Аднак НАК Беларусі да 31 сакавіка павінен вярнуць у МАК дыплом, выдадзены хакеісту за чацвёртае месца на Алімпіядзе.

*В. Дутаў*

# Па стану душы

Міхась прыпазніўся. Дарогаю сапсаваўся рухавік яго «УАЗіка». Ды і што, машына не зусім старая, але ж жалезная. Час ад часу нешта ламаецца. Так што кіламетраў за сорак ад сталіцы мусіў спыніцца ў чыстым полі. Гадзіны з чатыры, узняўшы капот, корпаўся, увесь перапэцкаўся, змерз да касцей. У рэшце рэшт адладаваў. Нейк абмыўся ў прыдарожнай канаве, добра, знайшоўся кавалачак мыла. Усё-такі да начальства едзе. Калгаснік калгаснікам, але зусім губляць марку не след.

Да дачы Начальніка пад'ехаў ужо ў цемры. Добра ведаў гэту дарогу і саму дачу, яе насельнікаў: колькі разоў траляваў сюды падносіны ўдзячных вяскоўцаў. Але з насельнікаў на дачы быў толькі Сам. Сямейнікі, мусіць, бавілі час у горадзе.

Начальнік адчыніў дзверы не адразу. Доўга давялося Міхасю калець на сіверы, націскаць раз пораз на званок. Ды вокны ж свецяцца, значыць, жывыя. Перадачу ж трэба было даставіць абавязкова. Не было таго выпадку, каб заказ не выканалі.

Нарэшце дзверы адчыніліся. Такога Начальніка Міхась яшчэ не бачыў.Не, бывала. Што і каньячком ад яго патыхала. Бывала, чырвані ў твары зашмат. Але цяпер Начальнік, абапёршыся на касяк дзвярэй, доўга ўвогуле не мог пазнаць яго, не разумеў прычыны візіту. Нарэшце махануў рукой - «занасі». Аўтаматызм паводзін, відаць, спрацаваў.

Перацягаўшы ў шматлікія халадзільнікі і шафы тое, што было прывезена, Міхась пачаў развітвацца, збірацца ў зваротны шлях. Але Начальнік ужо крыху ачомаўся.

-- А, ды гэта ты... Чаму так позна?

-- Нечаканая паломка ў дарозе. Выбачайце, калі ласка, Максім Уладзіміравіч.

-- Ну, давай, давай.. Хаця... Позна ўжо. Начуй тут. У качагарцы бакоўка ёсць, там і канапа.

-- Ды не, я паеду.

-- Ніякіх. Загад! Ідзі мыся і да мяне да каміна. Пагрэю.

Зайшоўшы ў пакой Міхась убачыў, што сапраўды, пабаляваў начальнік у адзіноце ад усёй душы. Цяпер, відаць, кампаніі захацелася. Што шафёр? Дык па начы і ён кампанія.

Пасля першай Міхась ветліва запытаў:

-- А дзе ж усе вашы, Максім Уладзіміравіч?

-- Мае?.. А там... --І Начальнік махануў рукой у няпэўным напрамку.

Пасядзелі яшчэ.Бачна было, што Начальнік не ў вялікім гуморы, залівае нейкія свае нутраныя згрызоты.

-- Ну і як там калгас? Ты ж з «Камуніста»?

-- Так-так, Максім Уладзіміравіч, адтуль. Жывём пакрыху. З вашай дапамогай.

-- Гэта, -- Начальнік абразліва хітнуў галавой у бок кухні, -- драбяза. Ты ведаеш, шафёр, колькі вас такіх у мяне? У нас жа ўся рэспубліка падзелена. Дванаццаць! -- І начальнік таркануў у твар Міхася дзве растапыраныя далоні. Потым падумаў і дадаў яшчэ два пальцы.

-- Яно так.

-- Дванаццаць. І адусюль усяго. Чаго захачу і колькі запатрабую. У мяне ў кожнага калгаса спецыялі-з-а-цыя.

Гэта слова Начальніку далося з цяжкасцю.

-- Па чыну, Максім Уладзіміравіч, -- сціпла пагадзіўся Міхась.

-- Па чыну. Ты ведаеш, хто я!..

-- Ве...

Але Міхась не дагаварыў. Раптам твар Начальніка, не тое што надзіманы, але вышэйшай упітанасці, пайшоў гармонікам маршчын, па шчаках паліліся слёзы. Ён усхліпнуў.

-- Я...Эх, шафёр!.. Што ты ведаеш. Я, можа, самы бедны чалавек на свеце.

-- Як жа бедны, Максім Уладзіміравіч, дванаццаць калгасаў, -- асмялеў Міхась.

-- Што? Ага, - Начальнік памаўчаў. -- Канечне. І ўсё, што душы заўгодна. І нават «сухімі».

-- Як гэта?

Начальнік выразна пацёр вялікі палец аб указальны.

-- Ды ведаеш, шафёр, як хістка сяджу. Ой, хістка. У любы дзень можаш -- бац! І няма Максіма Уладзіміравіча. Знік, растаў на абсягах палёў.

Бачачы, што Начальнік сёння зусім абмяклы, Міхась падпусціў:

-- Ну і на чорны ж дзень, напэўна, ёсць. Дзецям і ўнукам.

-- Што? -- Начальнік глянуў раптам на Міхася прасвятлела. Ды зноў панік.

-- На чорны дзень... Ты ведаеш, шафёр, як я цяпер жыву? Гэта табе сала на стале -- і добра. А калі каўбасіна, дык ты ўжо і зусім багатыр. А як я жыць прывык, шафёр. А спінагрызы мае? Ім жа цяпер не толькі жраць ды піць ад пуза і прысмакаў розных. Ім жа цяпер заграніцы падавай. -- Начальнік прымоўк. Потым узняўся. -- Так што калі якая нечаканка -- я хутка буду бедны. Бядней за цябе, шафёр. Усе мае накапленні ляснуць. Па ўсяму стану маёй душы.

І Начальнік зноў горка заплакаў.

*Алесь Касцень*

# РНЕ. Фашызм у Беларусі

**У мінулым нумары мы пісалі пра вандалаў, якія ўчынілі здзек над могілкамі ў Полацку. У сувязі з тым, што не так даўна ў Мінску судзілі прадстаўнікоў яшчэ адной небяспечнай арганізацыі – Русского Национального Единства (РНЕ), я вырашыў працягнуць тэму дэструктыўных арганізацый, якія дзейнічаюць у нашай краіне. Адзін суд адбыўся над "групай Ігнатовіча" - у мінскім гарадскім судзе. Кіраўнік банды атрымаў пажыццёвае зняволенне. Яшчэ адзін суд абвінаваціў двух былых прадстаўнікоў гэтай арганізацыі ў забойстве свайго паплечніка.**

Беларускі аддзел РНЕ, па некаторых ацэнках, не так даўна дасягаў 3000 сяброў, хаця згодна іншых ацэнак сяброў у арганізацыі было з 80 чалавек. Так альбо інакш дзейнасць эрэн`эшнікаў была зарэгістравана ў Магілёве, Шклове, Гродна, Віцебску, Оршы, Кобрыне, Баранавічах, Мар'інай Горцы, Барысаве. Сталіца ж была падзелена на тэрыторыі -- "Паўночны-Усход" (кіраўнік — Сапрыкін), "Паўднёвы-Захад" (кіраўнік — Вася Якубяк), "Поўдзень" (кіраўнік — Барыгін), "Усход" (кіраўнік — Дашкевіч), "Паўднёвы-Усход" (кіраўнік — Смалянчук). Былі таксама такія "экзатычныя падраздзяленні", як жаночае (кіраўнік — Яна Рудабелец), "падраздзяленне пенсіянераў" (кіраўнік — Мацкевіч), падраздзяленне "Варагі" (так званая "эліта", кіраўнік — Кароткіх). У Наваполацку, прынамсі ў трэцім інтэрнаце і карпусах універсітэту, зусім нядаўна можна было сустрэць эрэнешную сімволіку і ўлёткі.

У Глыбокім, на шчасце, пра РНЕ ведаюць мала, мо таму яго дзейнасць тут і не выяўлена. З іншага боку, няведанне рэальных фактаў пра гэту фашыстоўскую арганізацыю выклікае ў некаторых славянафілаў ілюзію, што не варта іх баяцца і што яны ў сапраўднасці нядрэнныя хлопцы.



Пахаванне лідэра беларускага РНЕ Глеба Самойлава забітага 5 жніўня 2000г.

Пачнем з таго, што сімвалам РНЕ з'яўляецца свастыка, арганізацыя мае строгую ваенізаваную структуру і лічыць усе краіны, якія мяжуюць з Расіяй, такія, як Беларусь і Украіна, неад'емнымі часткамі рускай імперыі. "Баркашоўцы", як празвала РНЕ прэса, маюць таксама яўна выяўленыя антысэміцкія погляды. "Жидов" яны б выганялі з краіны, як і іншых неславян. У гэтым яны ідэнтычны са сваімі нацысцкімі аднадумцамі.Трэба сказаць, што погляды гэтай партыі, гэты напрамак мыслення знаходзіць часам падрымку, чым, магчыма, і быў выкліканы факт, што многія злачынствы эрэн`ешнікам проста сыходзілі з рук. Газету "Славянский набат" і іншыя без праблем можна было набыць у кіёсках, а некаторыя выданні з непрыхаваным фашыстоўскім зместам прадавалі ў падземных пераходах і ля пляцаў у самым цэнтры Мінска (сам бачыў). На мірных мітынгах дэмакратычнай апазіцыі "эрэн'ешнікі" правакавалі бойкі. Зрэшты, многія з Рускага адзінства паралельна служылі ў структурах досыць уплывовых.

Па дадзеных інфармацыйнага сайта "Рэха", у розныя часы прыхільнікамі і спачуваючымі РНЕ былі такія людзі, як адвакат Філарэта Валерый Ерчак, рэферэнт мітрапаліта Алешка, сумнавядомы Азаронак, Уладзімір Чэртовіч з "Праваслаўнай ініцыятывы", праваслаўныя айцы Павел і Валерый, Галіна Рузава, якая была галоўным рэдактарам газеты "Личность", былы партызан і гісторык Адам Залескі, нябожчык генерал Баранкевіч, ды і многія, многія іншыя досыць вядомыя і ўплывовыя асобы.

Трэба сказаць, што прадстаўнікі эрэн`ешнікаў вельмі настойліва і нават часта ўпарта шукалі кантактаў, як кажуць, па ўсіх магчымых напрамках.І неаднойчы такія кантакты адбываліся.

Расказваюць, што адна асоба ў захапленні ад таго, што да яго па дапамогу звярнуліся эрэн`ешнікі, выгукнула: "РНЕ? Ведаю! Гэта ж тыя самыя хлопцы, якія баранілі "Белы дом" у 1993 годзе". Магчыма, менавіта з яго дапамогай у Беларусі ў верасні 1999 года была зарэгістравана газета "Русский порядок", якую забаранілі ў Расіі. Пасведчанне аб рэгістрацыі газеты, якая мелася распаўсюджваца не толькі ў Беларусі, але і ў Прыбалтыцы, краінах СНД, было ўручана.

Аднак яна так і не пачала выходзіць. Верагодна, з-за недахопу не толькі фінансаў, але і мазгоў. Усё гэта адбывалася ў той час, калі ўлады спынялі дзейнасць беларускіх пэрыядычных выданняў.

Была зарэгістравана грамадская арганізацыя "Коловрат" з фашыстоўскай сімволікай, у той час, калі ўлады змагаліся супраць беларускай нацыянальнай сімволікі. Некаторыя дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі аказвалі інфармацыйную падтрымку РНЕ,змяшчалі артыкулы ў падтрымку.

Якой бы магутнай гэтая арганізацыя ні была, яна патанула ў сваіх уласных унутраных разборках. Большасць эрэн`ешнікаў лічыць, што беларускага "фюрэра" Самойлава забілі па загаду свайго ж Ігнатовіча. Пасля было яшчэ забойства "саратніка" Брэйнэра. Забойства здзейснілі сабутыльнікі Брэйнэра Дашкевіч і Соляр. Забойства адбылося пры сумесным распіцці гарэлкі ў адным з двароў Першамайскага раёна Мінска. Трэба зазначыць, што забойцы займалі не апошнія пасады ў РНЕ. Дашкевіч ужо быў аднойчы судзімы і таксама за забойства. Але тады гэты факт не здолелі даказаць, і ён адседзеў толькі невялікі тэрмін за крадзёж.

Пад час той п'янкі Брэйнэра пырнулі нажом, а пасля дабілі з пісталета. Ёсць версія, што ён быў задзейнічаны ў супольных крымінальных справах з Дашкевічам і Солярам, і яны вырашылі яго прыбраць, як ненадзейнага сведку.

Маскоўскае кіраўніцтва РНЕ таксама ўвесь час трасе ад звадак і скандалаў. Яно ўжо падзялілася на тры самастойныя арганізацыі і шэраг рэгіянальных. Восенню 2000 года былыя чальцы РНЕ абвінавацілі "фюрэра" Баркашова ў раскраданні арганізацыйных грошай, алкагалізме, а таксама ў жаніцьбе… на яўрэйцы.

Яўна, што апошнім часам фармацыя рускіх фашыстаў перажывае занапад. Але вогнішча можа разгарэцца зноў у любы момант. Беларусь занадта смачны кавалак для любых фашыстаў. Што сапраўды шкада, дык гэта тое, што сярод прыхільнікаў РНЕ можна спаткаць і многіх беларускіх маладзёнаў.

На базе пабачанага, скажу, што гэта, як правіла, здэмаралізаваныя алкаголікі, якія выраслі на музыцы Ягора Летава і захапіліся фашызмам і бальшавізмам. Я не здарма вырашыў напісаць пра РНЕ сугучна з тэмай сатанізму, бо абодва "лагеры" ў рэальнасці маюць адну аснову. Бацькам жа хочацца параіць – беражыце сваіх дзяцей ад дрэнных уплываў.

*А.Храпавіцкі*
*паводле Recha.org і інш.*

# Наша культура неадлучная ад нашай прыроды!

**18 красавіка ў Беларусі будзе адзначацца Міжнародны дзень помнікаў і мясцін.**

У рамках святкавання Дня будуць арганізаваныя прыборкі Музея валуноў і Кальварыйскіх могілак у Мінску, гістарычных сядзібаў на р. Волме, у Лошыцы і ў Залессі, "Лесвіцы закаханых" у Гродне і іншых помнікаў. Акрамя гэтага, пройдуць фотавыставы, лекцыі, вечарыны і іншыя імпрэзы.

Дзень помнікаў і мясцін адзначаецца ў Беларусі па прапанове ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускага камітэта Міжнароднай Рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС). Да яе далучыўся шэраг грамадскіх аб'яднанняў і ініцыятываў. Краіны-ўдзельніцы ЮНЕСКА святкуюць гэты дзень ужо на працягу 20 гадоў.

"На жаль, на цяперашні момант грамадства не ўсведамляе неабходнасці захавання такога кшталту спадчыны, і чыноўнікі не будуць займацца ёй у належным аб`ёме, пакуль гэта не стане патрэбна нам самім. Кожнае грамадства захоўвае тое, у каштоўнасці чаго не сумняваецца, -- зазначыў намеснік старшыні ініцыятыўнай групы ІКАМОС Вадзім Глінік. -- Наша задача – нагадаць, што ў нас ёсць непаўторная спадчына, якую патрэбна захаваць. Сваімі акцыямі мы хочам звярнуць увагу грамадства на тое, што ў нас ёсць праблемы".

Дэвіз сёлетняга святкавання: "Наша культура неадлучна ад нашай прыроды!"

Па словах сп. Гліннiка, зараз у міжнародным маштабе ідзе тэндэнцыя да разумення культурнай спадчыны больш шырока, у экалагічным кантэксце: трэба захоўваць традыцыйнае асяроддзе бытавання, а не каменне і бярвенне.

Паводле словаў старшыні "Гісторыкі" Ірыны Каштальян, асноўная задача НДА ў гэты дзень -- растлумачыць каштоўнасць нашай спадчыны: "Мы хочам прыцягнуць людзей, якія ніколі не цікавіліся гісторыяй. Да кожнай прыборкі будуць прымеркаваныя канцэрты, вечарыны, экскурсіі. Гэта будзе цікава і прыемна для кожнага".

Цэлы шэраг мерапрыемстваў пройдзе ў Косаве (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці). Косаўскі палацава-замкавы комплекс – помнік культуры XIX ст. – знаходзіцца ў занядбаным стане. Яшчэ ў 90-я гады "Брэстрэстаўрацыяпраект" распрацаваў праект рэстаўрацыі палаца, аднак з таго часу нічога з месца не скранулася. За рэстаўрацыю браліся некалькі фірмаў, аднак справа аказалася нявыгаднай, паколькі патрабуе вялікіх укладанняў. Сябры ініцыятывы "Косаўскаму палацу – жыць!" гатовы прадаставіць працоўныя рукі для рэстаўрацыі палаца. Аднак, найперш роля ініцыятывы ў тым, каб прыцягнуць увагу да праблемы. У красавіку ў Косаве будзе праведзены фотапленэр з удзелам 10 фотамастакоў з краін былога Савецкага Саюза. Па выніках пленэра ў маі адбудзецца выстава. Акрамя прыборкі палаца, будуць праведзены невялікія раскопкі. Напачатку мая плануецца арганізаваць фэст з кірмашом, батлейкай, выступленнямі рыцараў.

*Barsnews*

# Газета для католікаў Беларусі

У хуткім часе ў Беларусі плануецца распачаць выданне агульнарэспубліканскай каталіцкай газеты. Пра гэта паведаміў пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.

Зараз пры Чырвоным касцёле выходзіць парафіяльны бюлетэнь "Голас душы" накладам 299 паасобнікаў. У ім друкуюцца каталіцкія навіны з Беларусі, Ватыкана, іншых краінаў свету, вытрымкі з багаслоўскай літаратуры, лісты чытачоў і іншыя рэлігійныя матэрыялы. Мяркуецца, што менавіта на аснове "Голаса душы" будзе функцыянаваць рэспубліканскае выданне, якое зможа, на думку ксяндза Завальнюка, больш поўна адлюстроўваць падзеі ў каталіцкай царкве Беларусі, а таксама жыццё католікаў у свеце.

На дадзены момант у Беларусі выходзіць некалькі часопісаў ("Дыялог", "Вера і жыццё" ды інш.), але адсутнічае выданне, якое б аператыўна даносіла інфармацыю да беларусаў-католікаў па ўсёй краіне. Менавіта гэту нішу мусіць заняць газета, выданне якой ініцыюе Уладзіслаў Завальнюк.

Нагадаем, што якраз з касцёла святых Сымона і Алены жыхары Беларусі на працягу некалькіх гадоў маглі кожную нядзелю слухаць у прамым эфіры рэлігійна-асветніцкую радыёперадачу "Голас душы". Аднак яе трансляцыя была спынена з пачатку 2002 года. Праз некаторы час трансляцыя выключна службы была адноўлена, але ўжо ў запісу і з кафедральнага касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Мінску.

*Антон Пратасоўскі*

# "Санта-Барбара" -- серыял, ці жыццё?

**Зараз на тэлебачанні ідзе шмат замежных серыялаў. Некаторыя з іх цягнуцца па некалькі год. Складваецца ўражанне, што здымаюцца яны прама з жыцця герояў серыяла.**

**Напрыклад, "Санта-Барбара".**



Гэты серыял з'явіўся на свет даволі выпадкова. Спярша кампанія Эн-Бі-Сі збіралася запусціць "мыльную оперу" на аснове папулярнага ў пачатку 80-ых гадоў міні-серыяла "Сумненне", але ў апошні момант не змагла дамовіцца з аўтарам сцэнарыя – знакамітай пісьменніцай Джуліт Кранц.

І вось, каб грошы на касцюмы і дэкарацыі не прапалі, было вырашана запусціць "халтуру" Добсанаў. Але замест шасці месяцаў "Каліфарнійскі клан" (такой была першая назва "Санта-Барбары") пратрымаўся на экранах амаль дзевяць год!

За час паказу серыяла зафіксавана каля 70 любоўных раманаў паміж акцёрамі. Самай працяглай аказалася сувязь паміж Нэнсі Грын (Джулія) і Лэйнам Дэвісам (Мэйсан) – яны пражылі разам амаль чатыры гады, але так і не зарэгістравалі свае адносіны. Чаго не скажаш пра другую пару серыяла: Вінсэнт Айрызары і Сігні Колеман уступілі ў законны шлюб у 1990 годзе. Такім чынам ім удалося тое, што не змаглі зрабіць іх героі на экране – доктар Скотт Кларк і прастытутка Селеста. Пасля пяці год разважанняў пажаніліся і акцёры Эрык Лінхольм (доктар Маккормік) і Эйлін Дэвідсан (Келлі нумар тры), якім аднак не давялося разам знясца ў серыяле.

А вось другая рамантычная гісторыя. На пачатку 1991 года у Мэрсі Уолкер (Ідэн) пачаўся бурны раман з галівудскім прадзюсерам Стывенам Кенэлам. Каб пазбавіць сяброўку ад надакучыўшай ужо "Санта-Барбары", той заплаціў вялікую суму няўстойкі Добсанам (па чутках размова ішла аб 3 мільёнах долараў), толькі тады сцэнарысты згадзіліся "забіць" Ідэн. Тэрмінова была напісана сцэна смерці прыгажуні ў аўтакатастрофе, роль шафёра ў гэтым эпізодзе выканаў сам Кенэл.

Да прыходу ў серыял Джэда Алена ў пачатку 1986 года роля Сі Сі Кэпвела лічылася ракавой. Першы Сі Сі – Ллойд Бочнер памёр ад разрыву сэрца прама на здымках 40-ой серыі. Другі Сі Сі – Марк Рычман пратрымаўся 75 серый, пасля чаго загінуў у аўтакатастрофе. Яму на змену прыйшоў Пол Брук, але ўжо праз паўгода дактары канстатавалі ў яго неаперабельны рак. Вось тады і настала чарга Джэда Алена. І трэба ж такому здарыцца, ужо праз паўгода ён аказаўся ў бальніцы з цяжкой формай пнеўманіі. Навучаныя горкім вопытам Добсаны пачалі шукаць пятага Сі Сі, аднак Ален выкараскаўся і змог "дажыць" да самай апошняй серыі "С-Б". У гэта цяжка паверыць, але на роль Келлі Кэпвел безпаспяхова спрабавалася юная актрыса з вялікім ротам і вельмі даўгімі нагамі па імені Джулія Робертс. Добсаны адмовілі ёй, палічыўшы будучую "красотку" вульгарнай і зусім непрыгожай дзяўчынай.

Вясной 1992 года ў азнаменаванне выхаду на экраны юбілейнай двухтысячнай серыі "Санта- Барбары" было праведзена апытанне тэлегледачоў дзеля вызначэння галоўных сэкс-сімвалаў фільма. Сярод мужчын гэтага тытулу быў удастоены Вінсант Айрызары (доктар Кларк); зусім няшмат уступілі яму Фрэнк Рэньён і Эй Марцінэс. А любімец расійскіх жанчын Лэйн Дэвіс заняў у гэтым рэйтынгу толькі дзевятае месца. У жанчын паза канкурэнцыяй аказалася Робін Райт (Келлі №1).

Расія, Беларусь і Украіна зараз, напэўна, адзіныя краіны, дзе яшчэ ідзе "Санта-Барбара". А яшчэ пяць год назад серыял адначасова дэманстраваўся ў 45 дзяржавах на трох кантынентах.

*«СВ»*

# І так бывае

Збітыя жонкамі немцы хутка змогуць адседзецца разам з дзецьмі ў спецыяльным прытулку. Германская "Служба дапамогі для мужчын" заявіла, што начлежку дабудуюць да лістапада 2002 года. Прытулак-начлежка для збітых і прыніжаных сваімі жонкамі мужчын адкрыецца ў Берліне.

Паводле папярэдніх дадзеных, у ёй змогуць пераначаваць да васьмі пацярпеўшых адначасова. Акрамя таго, яны змогуць прывесці з сабой дзяцей, для якіх арганізатары сховішча абяцаюць адвесці асобныя пакойчыкі.

Аўтары новага праекта лічаць, што грамадскасць павінна, нарэшце, даведацца, наколькі дэспатычныя нямецкія жонкі ў адносінах да сваіх мужоў. "Мужчыны таксама могуць быць ахвярамі, але чамусьці насельніцтва ўпэўнена, што выключна жанчыны – істоты безабаронныя і няшчасныя. У Германіі вельмі многа мужчын пакутуюць ад страшнай дамашняй тыраніі", - падтрымаў праект прадстаўнік іншай грамадскай арганізацыі - цэнтра па вырашэнню мужчынскіх праблем Ёхан Хофман.

Згодна з афіцыйнай статыстыкай, нямецкія жанчыны вінаватыя ва ўнутрысямейных непаладках у роўнай ступені з мужчынамі. У кожным другім выпадку акт насілля ўчыняюць менавіта яны. У Германіі ўжо існуюць некалькі тэлефонных службаў даверу для пакалечаных жонкамі мужоў. Аднак, мяркуючы па ўсяму, такой дапамогі траўміраваным мужчынам аказалася мала.

*«Звязда»*




*Малюнак Ю.Лаўцэвіча*

# Эвалюцыя чалавека завершана

**Вучоныя прыйшлі да вельмі непрыемнага для нас выніку. Аказваецца, эвалюцыя чалавека як біялагічнага віду завершылася, мы дасягнулі піка свайго развіцця.**

Прычынай эвалюцыі з'явілася неабходнасць прыстасоўвацца да зменлівых умоў навакольнага асяроддзя. Цяперашняе чалавецтва амаль не залежыць ад яго. Мы забяспечаны ежай, вопраткай, нам не пагражае штодзённая небяспека ў выглядзе драпежных звяроў.

Канец эвалюцыі азначае пачатак дэградацыі.Звычка перамяшчацца на камфартабельных аўтамабілях і нежаданне загружаць свае мазгі разважаннямі непазбежна вядуць да таго, што цела і мазгі чалавека слабеюць.

Вучоныя прадбачаць з'яўленне новага віда: чалавек тэхнічны. Чалавек будучага будзе ў сваім родзе прыстаўкай камп'ютэраў і іншых даброт цывілізацыі і будзе поўнасцю ад іх залежаць. Выключэнне пакуль складаюць людзі з слабаразвітых краін. Падобна на тое, што мы таксама з'яўляемся выключэннем.

*Зміцер Лупач*

# ВАКОЛ СВЕТУ

## Не ў каня корм

У Японіі з'явіўся новы чэмпіён – 32-х гадовы Казуціо Араі, які атрымаў тытул лепшага ў свеце пажырацеля Хот Догаў. Ён выйграў міжнародныя спаборніцтвы па абжорству, якія праходзілі ў Нью-Йорку. Усяго за 12 хвілін ён здолеў праглынуць 25 Хот Догаў, што з'яўляецца новым сусветным рэкордам. Дабіцца гэтага выніку Араі ўдалося шляхам пастаянных і старанных практыкаванняў. Дарэчы, па яго выгляду гэтага не скажаш – важыць пражорлівы японец крыху больш 50-ці кілаграмаў.

***

## Бульба – гэта смачна

У горадзе Грэнд Фокс у Паўночнай Дакоце ўсталяваны новы рэкорд Гінеса. Мясцовыя жыхары ў час традыцыйнага фестывалю прыгатавалі і з'елі амаль дзве тоны "french fries" – кавалачкаў смажанай бульбы, гаражане ўжо здаўна вядомыя сваім апетытам і любоўю да бульбы – аднак такога выніку ім удалося дабіцца першы раз. Каб паставіць рэкорд, яны выкарысталі 50 галонаў кетчупа, больш за цэнтнер солі і 15 тысяч сурвэтак.

***

## Мецэнат

У Чыкага англійскі турыст усталяваў своеасаблівы рэкорд, пакінуўшы афіцыянтцы чаявых на ... 10 тысяч долараў. Ці яму захапілася выхваліцца, ці яго зачапілі расказы дзяўчыны пра дарагавізну вучобы ў каледжы – у парыве шчодрасці ён выпісаў ёй чэк на вышэйназваную суму. 23-х гадовая афіцыянтка была на вяршыні шчасця. Абяцаных грошай яна аднак так і не атрымала. На наступны дзень турыст заявіў, што ён не першы раз бачыць і што ў рэстаране быў да бяспамяцтва п'яны. Адсюль мараль – бярыце чаявыя наяўнымі.

***

## Век жыві, век вучыся

У Пуэрта Рыка жыве самая старая ў свеце... школьніца. Гэта Ганна Моліна, якая завершыла курс сярэдняй адукацыі ва ўзросце 102-вух год. У юнацтве закончыць школу ёй не ўдалося – давялося ісці працаваць, каб падтрымаць сям'ю. Выйшаўшы на пенсію і выгадаваўшы 11 дзяцей і незлічоную колькасць унукаў, яна вырашыла запоўніць прабелы ў сваім навучанні.

***

## Узрост не перашкода

Самая старая ў свеце маці – 67 гадовая Арселі Кех, ізноў трапіла ў навіны. Кех, нягледзячы на свой узрост, 4 гады назад паспяхова нарадзіла дзяўчынку. Цяпер яна аб'явіла, што чакае новае дзіця. Па яе словах, калі дазволяць урачы, яна гатова да новых родаў.

***

## Дажыла

Адна з самых старых жанчын на планеце – 114 гадовая Ева Морыс з Шатландыі падзялілася сакрэтам свайго даўгалецця. Дажыць да рэкорднага ўзросту, па яе словах, ёй удалося дзякуючы пастаяннай працы і здаровай дыеце – кожны дзень яна ела вараную цыбулю і выпівала шклянку віскі. Ева за ўсё жыццё ні разу сур'ёзна не хварэла і выдатна адчувае сябе і зараз – вядома, з папраўкай на ўзрост. Трэба дадаць, што курыць яна кінула толькі ў 80 гадоў.

***

## Заплаці падаткі і спі спакойна

Джакоб з Лонг Айланда ў Нью-Йорку ўсталяваў своеасаблівы рэкорд. Ён змог вадзіць за нос амерыканскую падатковую службу IRS на працягу 50-ці год. IRS, дарэчы, у Амерыцы баяцца ўсе – ад простага рабочага да прэзідэнта. Фрэйдус жа, якому зараз 84 гады, нажыў салідныя састаянне на продажы нерухомасці, з 49 года перастаў указваць у падатковых дэкларацыях свае мільённыя даходы. Як толькі гэта высветлілася, яму было прадпісана заплаціць не толькі нявыплачаныя падаткі, але і ўсе магчымыя штрафы – усяго на суму ў 17 мільёнаў долараў. Фрэйдус, аднак, прыняў рашэнне суда, як выклік. Ён падаў у суд і, выкарыстоўваючы судовую валакіту і юрыдычныя цяганіны, дабіўся таго, што справа зацягнулася на 50! Год. Скончылася ўсё тым, што з 17 мільёнаў ад яго цяпер патрабуюць толькі 4 – даказаць, што ён хаваў астатнія 13 ужо немагчыма, паколькі за гэты час многія сведкі памерлі, а ў тых, хто застаўся жывы, па старасці пачаліся правалы ў памяці, скончылася тым, што Фрэйдус згадзіўся заплаціць падаткі, аднак, зноў не без агаворак. З 4 мільёнаў долараў, якія ён павінен IRS, ён згодзен заплаціць толькі 3,3 мільёна. Астатнія 700 тысяч ён зноў збіраецца адсуджваць.

kurilka.com

